***Разблытайма таямніцы!***

# Скарб Думак

***Незалежнае рознабаковае выданне***

**№ 2 (11).**

ПАНЯДЗЕЛАК

**19**

СТУДЗЕНЯ
2004 ГОДА

**Наклад 299 асобнікаў.**
*Выдаецца з 27 кастрычніка 2003 года.*
*Распаўсюджваецца **бясплатна**.*
Рэдактар: Міхась ЛЕБЕДЗЬ.
Тэлефон у Менску: 233 61 89.
**E-mail: lebiedz@tut.by.**
**Наступны нумар «Скарбу Думак» выйдзе ў сераду, 25 лютага.**

***Усіх нашых чытачоў з разнастайнымі святамі (сваімі альбо агульнымі) віншуе рэдакцыя "Скарбу Думак"! Рабіце свае справы на карысць беларускай нацыі! Будзьце ўпартымі ў дасягненні сваіх мэтаў! Здзяйснення Вашых мараў і ўсяго Вам найлепшага!***

## *Сёння ў нумары:*



"...Зразумела і яшчэ, яшчэ, яшчэ раз, што цягнула туды, на "тёмную, беспросветную, отказавшуюся от самой себя", але ўсё ж мілую і дарагую сэрцу радзіму: і радзіма ёсць Радзіма ды яшчэ калі яна ў такіх прыніжэннях і зганьбаванні. Яна чакае: ты выстаяў, дык дапамажы і іншым, хоць вялікай платы не абяцаем. Зноў жа, можаш нават і паплаціцца, мы не падтрымаем, як і не падтрымалі некалі Яго, Хрыста; ён і з-за нас пайшоў на пакуты, муку і смерць, але затое – Жыццё, Пашанота яму пасля, можа, і вельмі позна, калі тваіх прыгнётнікаў і губіцеляў праклянуць, а Цябе ўзвысяць. Ды не спяшайся: наступіць новы колазварот. Але ў ім будзе лягчэй тым, каму ты дапаможаш цяпер..."

Эсэ Генрыха Далідовіча **"З Коласавага племені"**
*чытайце на **стар. 3, 5.***

Бурачок, год 1987.



Браце беларусе.

Бяз шуму, бяз л1шняга галасу, не пры чужым воку пагаворым спакойна, як той казаў, аб ус1м, што бал1ць, чаму бал1ць ды што раб1ць, каб не балела.

"Ня трэба дзьвюх, каб пачаць",- сказаў Прарок. 1 пачаў. Нам – працягваць. 1 тут па адным ужо мала.

Па адным был1 Ларыса Ген1юш, Уладз1мер Караткев1ч... Гэта на 1хн1 сьветач зьб1раемся мы. Гэта ад 1хн1х паходняў запальваем свае. 1 вось ужо 1ншыя абуджаюцца наўкола. Але як часта бракуе нам с1лаў ц1 кему, каб згуртаваць 1х ды ск1раваць на добрае.

Шмат што раск1дае нас, разлучае. Тыдзень, месяц 1 год – ан1хто не прыходз1ць. А тое 1 завагаесься – ц1 ж слушнага прос1ць сэрца?..

Страчваем мову 1 самабытнасьць, ня ўмеючы пратарнаваць 1х да зьменаў часу. Па адным... Страчваем плён свой 1 папярэдн1каў, ня ўмеючы даць яму поступу. Па адным... Страчваем веру ў сябе 1 ў будучыню нацы1...

А тут яшчэ госьц1 прыходзяць або да сябе кл1чуць. Як ратавацца? 1 думаеш: Божа! Гэтк1 нязьменны сьвет! Што за царом, што за панам, што за баянам. Кольк1 палегла ды змарнавалася сыноў 1 дачок Яе адно за любоў да Яе. А Яна – жыве!

Згадаем, браце, што было, а што прыдумаем – тое 1 будзе.

x x x

Выхад "Бурачка" пад час адл1г1 ў аф1цыйным друку /АД/ – не парадокс, а выпадковае супадзеньне. Бо гэты зборн1к-альманах-часоп1с – ня вын1к цэнзуршчыны, якая нараджае апаз1цыю. Бо ён – не апаз1цыя.

Пра якую апаз1цыю можна гаварыць, кал1 няма бакоў, няма супярэчнасьц1. "Бурачок" больш падобны да новага "гал1новага" ц1 "рэг1янальнага" выданьня. Гэта зародак нацыянальнага /нац./ друку, якога проста няма ў с1стэме сучаснага АД. Няма 1 ўсё.

Нас не аспрэчаць у рэдакцыях АД, як не аспрэчыл1 б як1х 1ншапланецянаў. Нас не зразумеюць. Нам н1кол1 не гавораць: вы не маеце рацы1, нам гавораць тольк1: "Зачем?!." Нац. пытаньне, нашае пытаньне даўно 1 трывала замарожана ў сродках мас. 1нф. "Бурачок" адтуль – з гэтай замарозк1.

Мы 1 АД гаворым розным1 мовам1, ва ўс1х сэнсах. Ц1 ж не таму яшчэ так упарта вернецца беларус ад свае роднае мовы, што яна ператворана АД 1 РТВ ў "исковерканный русский язык". Мы супраць гэтага, але 1 тут мы не апаз1цыя. Бо супрацоўн1к1 АД 1 РТВ скажаюць мову не сьвядома, а м1жвольна. Бо 99,9% з 1х у жыцьц1 гэтай мовай не карыстаюцца. Не прэстыжна, не прынята ды 1 проста "стыдно". Думаюць па-расейску, п1шуць па-беларуску. Як умеюць. 1 большаму мы 1х не навучым. "Зачем?!." Таму 1 прыгадал1 мудры прынцып: адмаўляеш – прапануй.

→

*Васіль БЫКАЎ*

Народная Воля
22 СНЕЖНЯ 2000 г.

# ПРЫПАВЕСЬЦІ



## Сьвіст

Пра народ у краіне Хандзю хадзілі дзьве супрацьлеглыя пагалоскі, кожная зь якіх увогуле мела рацыю. Нядаўна ўсталяваны дыктатар ды ягоныя памагатыя лічылі народ самым разумным, самым правільным і працавітым. Іхнія ж супраціўнікі сьцьвярджалі, што народ дурны і сьляпы, нібы крот. Бо каб быў разумны і працавіты, дык нешта б умеў, а гэты ня ўмеў нічога, як нічога і ня меў. Пэўна, тая акалічнасьць і змусіла дыктатара да пошукаў нейкіх сродкаў стабільнага існаваньня яго і народу. Але новыя сродкі ня так лёгка было знайсьці, а час катастрафічна мінаўся. Неяк дыктатар з прыкрасьці ад чарговай разумовай няўдачы гучна сьвіснуў, як сьвістаў у дзяцінстве, пасьвячы свінячы статак. Пісар, што зь нейкага часу запісваў за ім кожнае слова (для гісторыі), застыў з пяром у пальцах — ён ня ведаў, як запісаць сьвіст. Заўважыўшы тое, дыктатар зьверавата ўставіўся ў пляшывага пісца, які, каб неяк улагодзіць пана, проста голасна войкнуў, быццам бы ў захапленьні ад сьвісту: маўляў, як прыгожа! Іншыя, што ў той час былі ў пакоі, таксама дружна падтрымалі пісца: і прыгожа, і зьмястоўна, а галоўнае — даходліва для народу, кожны зразумее. Ведама ж, кожны быў дзіцёнкам, хоць і ня кожны дзіцёнак пасьвіў сялянскіх сьвінак.

У той жа адвячорак урад прыняў адмысловы дакрэт аб значэньні дыктатарскага сьвісту, а газэты ў хуткім часе пачалі друкаваць артыкулы пра тое, як гэта важна наогул — сьвістаць. У краіне пачаў разгортвацца рух за высокаідэйны і высокамастацкі народны сьвіст. Праўда, як бадай і ў кожнае справе, знайшліся тыя, што не пагадзіліся з дзяржаўным значэньнем сьвісту, але яны былі меньшынёй, а меньшыню, як вядома, бязьлітасна душаць. Хутка задушылі і праціўнікаў сьвісту.

Праз нейкі нядоўгі час рух нечуванага пашырэньня сьвісту стаўся ўсенародным, яму ўжо не шкодзіў ніхто. Вучыць прафесійна сьвістаць пачалі ў школках, сьвіст увялі ў якасьці абавязковага прадмету на экзаменах у ВНУ, дзе былі тэрмінова створаны катэдры сьвісту. Адпаведна, бы грыбы пасьля дажджу, зьявіліся высокакваліфікаваныя спэцыялістыя па сьвісту, актыўна рыхтаваліся і пасьпяхова абараняліся кандыдацкія ды доктарскія дысэртацыі на тэмы сьвісту. У краіне рэгулярна праводзіліся конкурсы і спаборніцтвы па сіле, працягласьці і мадуляцыі сьвісту, наладжваліся канцэрты. Неўзабаве зьявіліся і рэкардсьмены — асобна па розных жанрах сьвісту, стварался ансамблі, якія езьдзілі па гарадах і вёсках і сьвісталі на ўсю электронную моц свае апаратуры. Тыя няблага зараблялі, сплочвалі казне немалыя падаткі і карысталіся прыязнасьцю ўлады і народу. Нечуваная папулярнасьць сьвісту зрабіла папулярнай краіну, пра якую яшчэ нядаўна мала хто ведаў у сьвеце. Тады дыктатар ды ягоныя памагатыя сьцямілі, што нягожа было б тым не пакарыстацца, і вырашылі распаўсюдзіць ідэю сьвісту як мага далей у сьвеце. Была створана новая праграма заваёвы сьвету праз космас, у які запускаліся талеркі-спадарожнікі, адбітыя імі хвалі пранікалі ва ўсе куточкі планеты. Людзі на зямлі ўведалі пра незвычайна плённую справу сьвісту і, як маглі, пераймалі яго. Дзякуючы сіле сьвісту народ, краіна і яе дыктатар зрабіліся самымі славутымі ў сьвеце.

Натуральна, добра было пачувацца славутымі, але яшчэ трэба было і есьці, а во ежы катастрафічна не хапала. Захапіўшыся сьвістам, людзі адвучыліся араць зямлю, пасьвіць коз і нават вясной саджаць бульбу. Эканоміка, спрэс стаўшы касьмічнай, усё болей хірэла, і хутка ў людзей нават на добры маладзецкі сьвіст не стала ставаць моцы. Дзеля эканоміі людзкой сілы была адмененая родная мова, пра якую хутка забыліся ўсе — гараджане, сяляне і нават пісьменнікі. Пісьменнікі, праўда, забыліся апошнімі, чым увогуле ганарыліся. Болей ім ганарыцца ўжо не было чым.

Краіна неўпрыцям усунулася ў страшэннае правальле татальнае крызы, калі пачала беззваротна хірэць нават сама ідэя дзяржаўнага сьвісту. Дзеля яе паратунку стварылі некалькі дадатковых міністэрстваў, каардынацыйны над імі камітэт, Савет бясьпекі, узмоцнены аддзел секурытаты. Падвысілі ролю адукацыі — усе ПТВ ператварылі ў тэхнікумы, тэхнікумы — ва унівэрсітэты, а універсітэты, ведама ж, у акадэміі. Павялічылі колькасць дактароў ды акадэмікаў, зарплату якіх таксама падвысілі, прыраўняўшы да сержанцкае зарплаты амапаўцаў. І ўсё роўна сьвіст марнеў, ягоная ідэя апынулася пад смяртэльнай пагрозай. Апазыцыя ж толькі мацнела. Праўда, апазыцыянэры пакуль што выступалі не супраць самой ідэі, а супраць сродкаў і мэтадаў яе выкананьня. Ідэя ж, казалі, зусім неблагая, калі яе з розумам ажыцьцяўляць. Дыктатар назваў тую апазыцыю сьмехатворнай і казаў, што варта яму хоць раз добра сьвіснуць, як яе бы ветрам садзьме. І праўда, некалькі самых заўзятых апазыцыянэраў ужо зьнікла — бяз знаку і следу, бы праз зямлю праваліліся. Але і дыктатар зьнемагаў ад шэрагу няўдач і мог намагчыся хіба на адзін добры посьвіст на тыдзень. У сьвеце пачалі губляць цікавасьць да краіны — радзімы сьвісту. Рэтранслятары-спадарожнікі, бы восеньскія каштаны, адзін за адным сыпаліся долу і згаралі ў шчыльных слаях атмасфэры. Запушчаць новыя ня было за што. У космасе запаноўвала касьмічная ціша.

Затое на зямлі бушавала бура.

За апошнія грошы дыктатар мацаваў сілы секурытаты — паліцыю ва уніформе і ў штацкім, суды і пракуратуру, якім падвысіў заробкі і падвоіў нагрузку. Арыштоўвалі, судзілі і саджалі найперш праціўнікаў сьвісту. Ды таго аказалася недастаткова. Было заўважана, што некаторыя сьвісталі няправільна, чужым падрыўным сьвістам, — гэтых рэпрэсавалі таксама. Затым зрабілі чыстку вучоных шэрагаў, перагледзелі тэматыку іхніх дысертацый. Выявілася, што некаторыя з вучоных-гісторыкаў няправільна лічылі, быццам гісторыя краіны пачалася не з запачаткаваньня ідэі сьвісту, а значна раней. Секурытата з тым катэгарычна не пагадзілася, а ў краіне яе думка заўжды была аканчальнай, і тую канцэпцыю выкаранілі. Як пэўная рэакцыя на тыя зусім натуральныя захады, у народзе пачала самахоць сьпець новая нечуваная ідэя — ідэя маўчаньня. Вядома, яна пляжыла выдатную, выпрабаваную ў часе ідэю сьвісту, але як было зь ёй змагацца? Як было ўведаць, што выношваюць маўчуны? І як прадухіліць усенародную маўчанку, якая пагражала краіне усеагульнай нематой?

Тым часам маўчанка шырылася зь невераготнай хуткасьцю. Зьняможаны шматгадовым посьвістам люд маўчаў з задавальненьнем. Рабіць тое было проста і лёгка тым болей, што ўсе даўно адвыклі ад роднае мовы, і гаварыць наогул не было патрэбы.

Яшчэ праз нейкі час краіна аканчальна змоўкла, ніхто ўжо ня мог нават слаба сьвіснуць. Праўда, з тае нагоды ніхто асабліва не перажываў, апроч хіба пэнсыянэраў. Для гэтых за даўгія гады іхняга жыцьця сьвіст стаў адзінай прафэсыяй, іншага яны ня ўмелі. Але, на вялікі жаль, супраць іх працавала прырода, і гэтых людзей у краіне хутка менела. Як і належыць паводле наўхільных законаў быцьця.

## Вязьніца Траум

Сядзець у вязьніцы заўсёды кепска, нават калі вязьніца ня надта і жорсткая. Тая пад назовам Траум не была дужа жорсткай: і харчаваньне, і прагулянкі, і нават спатканьні з родзічамі — усё было пазначана законам і выконвалася наглядчыкамі. Але ўсё роўна вязьні пратэставалі, патрабавалі, нават знарок галадавалі — гэтак імкнуліся да волі.

На волі таксама не маглі зьмірыцца з тым, што суайчыньнікі пакутваюць у вязьніцы. І таксама бунтавалі, наладжвалі страйкі і дэманстрацыі, выступалі ў друку. Рэжым не саступаў, увёў жорсткую цэнзуру, на дэманстрантаў кідаў буйныя сілы паліцыі, высілкамі якой кантынгент вязьняў у шматкроць павялічваўся. У рэшце рэшт барацьба за волю вязьняў набыла такую вастрыню, што абодва бакі сутыкнуліся на барыкадах.

У горадзе ўсчалася сапраўдная вайна. Біліся на вуліцах і падворках, на дарогах і вакольных палёх. Перамога была пераменная — то тых, то іншых, было шмат забітых і пакалечаных. З цягам часу горад ператварыўся ў руіны, палі пазарасталі быльнягом — не было каму ні араць, ні сеяць. Адзінае ціхае мейсца засталося ў вязьніцы Траум, дзе па-ранейшаму выконваўся рэжым, а галоўнае — вязьняў неяк кармілі. А старадаўнія каменныя сьцены затулялі ад сьцюжы і непагадзі. Ня тое, што на волі, дзе даўно ўжо ня стала чаго есьці і не засталося ніводнага даху над галавой.

І ўсё ж вязьні, можа, як ніколі, прагнулі волі. Спантанны рух за волю ўзначаліў малады дзяцюк Восіп, які апынуўся ў вязьніцы ня так і даўно — пасьля паразы першага выступу за волю. У вялікай агульнай камары ён вёў даўгія гутаркі зь вязьнямі ў тым сэнсе, што няма ў чалавека (як, зрэшты, і ў кожнай жывёліны) нічога даражэйшага за волю, што да волі з моманту нараджэньня мкнецца кожная жывая істота. Вязьні з ахвотай слухалі таварыша і не пярэчылі — хто б тут мог запярэчыць супраць волі? Усім надакучылі гэтыя муры, хацелася прэч ад іх — на зялёную траўку, пад ласкавы ветрык, на сонца. Ды не пушчалі.

Седзячы па сваіх камарах, вязьні чуйна ўслухоўваліся ва ўсё, што рабілася за мурамі вязьніцы. Праўда, яны мала што ведалі пра тое, але, як змаганьне наблізілася да сьценаў Трауму, шмат ведаць і не было патрэбы. Трэба было дзейнічаць. З каманды Восіпа ўсе разам паўсталі, выламалі дзьверы-запоры і вырваліся насустрач вызвольнікам. То было незабыўна-узьнеслая спатканьне — вязьні плакалі ад радасьці, вызвольнікі іх абдымалі. Пад сьценамі Трауму адбыўся вялізны стыхійны мітынг, на якім выступалі да ночы. Праўда, пад вечар людзей у натоўпе пачало менець, нядаўнія нявольнікі разбрыдаліся хто куды. Але дужа разбрыдацца не было як, бо не было дзе прытуліцца ад сьцюжы, горад ляжаў у руінах.

А ўжо падаў зазімак. Тады запалілі рэшткі будынін, грэліся ля вогнішчаў, неяк каратэлі ноч. Горш, што не было чаго есьці — ні ў нядаўніх вязьняў, ні ў іхніх вызвольнікаў. Як разьвіднела, зноў пад сьценамі і ў рове вязьніцы пачаліся мітынгі. Выступалі розныя людзі, але самы палкі і пераканаўчы выступ гучаў ад нядаўняга вязьня Восіпа, які зноў і ў каторы раз мовіў пра грунтоўны кошт волі, якою не мае права грэбаваць ні чалавек, ні ўлада, ні сам гаспадзь-Бог. Яго зноў слухалі без пярэчаньня, але ранейшых гарачых воплескаў чамусь не было. У цішыні, якая настала пасьля яго выступу, аднекуль з задоў натоўпу пачуўся няўпэўнены голас:

А калі будзем есьці?

Калі і што есьці, Восіп не сказаў, мабыць, сам быў ня ў курсе, і зноў пачаў гаварыць пра волю ў зьняволеным грамадзтве. На той раз яго ўжо кепска слухалі — мабыць, у галодных людзей наогул бракуе слых. Да таго ж усім дацінала сьцюжа.

Неяк, аднак, перабылі ля вогнішчаў сярод руінаў той дзень і яшчэ адну ноч. Надвор'е між тым і зусім пагоршала, хлеба трохі прывезьлі, ды мала, на ўсіх не хапіла. Каля вогнішчаў ішлі няспынныя спрэчкі-свары — то ворагі, а то і нядаўнія дружбакі выкрывалі адзін аднаго, шукалі здрайцаў і калябарантаў, якіх тут жа і лінчавалі ў рове ля Трауму. У дадатак да ўсяго кепскага аднекуль пайшлі чуткі, што суседнія гарады — хаўрусьнікі іхняга рэжыму зьбіраюць войска, каб задушыць такую дарагую, вялізнай цаной здабытую волю.

Яшчэ патузаўшыся колькі дзён на ветры пад сьценамі вязьніцы, натоўп былых вязьняў падаўся назад праз жалезныя вароты ў свае звыклыя камары. Там таксама не было хлеба, затое было ня так сьцюдзёна. Старая варта са згоды з вязьнямі заняла свае вартавыя мейсцы.

На волі ля брамы застаўся прынцыповы яе заступнік Восіп, якога праз тыдзень і захапіла войска рэваншыстаў. Яго павесілі на турэмным двары ў прысутнасьці вялізнага натоўпу зьняволеных.

Зьняволеныя ў бальшыні паставіліся да таго абыякава, бо ўжо перасталі паважаць свайго завадатара, які змусіў усіх перажыць немалую мінтрэгу. І не дамогся нічога.

## РУКАПІС, ЗНОЙДЗЕНЫ Ў АКАДЭМІІ

***Фантастычнае апавяданне***

**2028 год. Мінск. У прыёмную прэзідэнта Нацыянальнай акадэміі навук заходзіць архіварыус з папкай, перавязанай шаўковай стужкай.**

**— Вось корпаўся ў архіве і адкапаў, — патлумачыў ён сакратарцы. — На незразумелай мове напісана. Хутчэй за ўсё на беларускай. Трэба прэзідэнту паказаць...**

**— Няма сэнсу, — засумнявалася сакратарка. — Ён жа вучыўся і абараняўся ўжо тады, калі ў акадэміі гэтай мовай і не пахла.**

**— Але паспрабаваць трэба, — не пагадзіўся архіварыус і зайшоў у прасторны кабінет прэзідэнта, які зусім нядаўна быў абраны на высокую пасаду.**

**Прэзідэнт нервова пачаў гартаць папку.**

**— Ясна адно: напісаў у маі 1998 года. Астатняе цяжка зразумець. Трэба было б знайсці вучонага, які б пераклаў яго...**

**— Шукаў, — прызнаўся архіварыус. — Безвынікова.**

**— Але ж у нас, здаецца, ёсць Інстытут беларускай мовы і літаратуры?**

**— Так, інстытут такі ёсць, — пацвердзіў архіварыус, — але беларусаў там не засталося. Па-англійску — калі ласка, па-кітайску, па-японску, на іўрыце, а па-беларуску — ніхто ні ў зуб нічога.**

**— Што ж гэта атрымліваецца? — разгубіўся прэзідэнт. — У Нацыянальнай акадэміі няма спецыялістаў нацыянальнай мовы?**

**— Няма.**

**— Тады знайдзіце, дзе хочаце, чалавека, які б пераклаў гэты рукапіс на рускую мову, — узмаліўся прэзідэнт.**

**Неўзабаве такога чалавека адшукалі ў Дзяржаўным універсітэце. Той прагледзеў рукапіс і горка ўсміхнуўся:**

**— Гэта запісы з пасяджэння Прэзідыума Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі 28 траўня 1998 года, дзе вырашалася пытанне аб скасаванні залікаў па беларускай мове для аспірантаў. Рашэнне падпісаў тагачасны прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандр Паўлавіч Вайтовіч.**

**— Няўжо?!**

**— Вось і пайшлі ў навуку маладыя людзі без ведання мовы карэннага народа, — сумна канстатаваў спецыяліст з Дзяржуніверсітэта. — Як, дарэчы, і сённяшні прэзідэнт акадэміі...**

**— Дык што ж, усё пачынаць спачатку? — разгублены запытаўся архіварыус.**

**— Выходзіць так! Калі хочам заставацца беларусамі, землякамі Скарыны і Тураўскага, Купалы і Коласа...**

*Уладзімір ПРАВАСУД.*

**Вожык, 1998, № 10.**

Гаўрыла ШВОРАН

**Вожык, 1998, № 10.**




...На смех сябрам,
На страх сабе —
Мы кожны дзень у барацьбе.

●

...Як хочаш атрымаць пасаду,
Крычы пра планы да ўпаду.

●

...Навошта крамкі і палаткі?
Каб браць вялікія падаткі.

●

...Хто хабарам расплачваўся за дачы,
Тым цяжка вырашаць судовыя задачы.

●

...Мы ўсе не супраць пільнасці.
Але ж каб без дэбільнасці!

●

...Калі не хочаш атрымаць па карку,
Не пачынай з амонаўцамі сварку.

●

...Цяпер і ў цырку
Ядуць зацірку.

●

...Хіба адновіш шлях у грэкі,
Калі навокал — недарэкі?

* * *

**То рэкламныя дзеўкі, то «мыльныя»,
Як іх там называюць, «оперы»,
То прыводзяць у дрыжыкі операў —
Ці банкіры, ці банды ўсясільныя?..**

**Тут і спічаў слова пахвальнае
Учарашнім багам і адступнікам,
І праклён «адраджэнцам
прыстукнутым»,
І народу псалмы пахавальныя...**

**Дабіваюць? Ці ўжо дабілі нас? —
Пасядзіш іншы раз перад «скрынкаю» —
І адчуеш: тэледубінкаю
Аддубасілі, аддэбілілі...**

**Васіль ЗУЁНАК**

**Вожык, 1998, № 10.**

што - небудзь змянілася!?

Умбэрта ЭКА

# Вечны фашызм

«Вечны фашызм» – даклад знакамітага італьянскага пісьменніка і вучонага Умбэрта Эка на сімпозіуме, што праводзіўся італьянскім і французскім аддзяленнямі Калумбійскага універсітэта (Нью-Йорк) 25 красавіка 1995 г., да юбілею вызвалення Еўропы. Аднак мінулы час (амаль дзесяцігоддзе) не састарыў у ім ніводнага слова. Нібыта напісан сёння пра сённяшнія пагрозы. Друкуецца ў скароце.

У 1942-м, калі мне было 10 гадоў, я заваяваў першае месца на алімпіядзе «Ludi Juveniles», што праводзілася для італьянскіх школьнікаў-фашыстаў (то бок для ўсіх італьянскіх школьнікаў). З рытарычнай віртуознасцю я развіваў тэму «Ці павінны мы памерці за славу Мусаліні і за неўміручую славу Італіі?» На гэтае пытанне я даў станоўчы адказ. Я быў разумны хлопчык.



Потым, у 1943 годзе, мне адкрыўся сэнс слова «свабода». На заканчэнне гэтага нарысу я распавем, як яно было. «Свабода» тады яшчэ не азначала «вызвалення».

Калі я быў падлеткам, два гады вакол былі эсэсаўцы, фашысты і партызаны, усе палілі адзін у аднаго, а я вучыўся ўхіляцца ад стрэлаў. Карысны навык.

У красавіку 1945 году партызаны ўзялі Мілан. Праз два дні яны занялі і нашае мястэчка. От была радасць. На цэнтральнай плошчы тоўпіліся местачкоўцы, спявалі, размахвалі сцягамі. Гукалі Міма, камандзіра партызанскага атраду. Міма, у мінулым капітан карабінераў, перайшоў на бок Бадольё (Пьетра Бадольё – адзін з арганізатараў звяржэння Мусаліні, потым стаў прэм'ер-міністрам Італіі), і ў адным з першых баёў яму адарвала нагу. Ён выбраўся на балкон муніцыпалітэту на мыліцах, бледны. Рукой зрабіў знак натоўпу, каб змоўклі. Я, як і ўсе, чакаў урачыстае прамовы, усё маё дзяцінства прайшло ў атмасферы маштабных гістарычных прамоваў Мусаліні, у школе мы вучылі на памяць самыя пранікнёныя пасажы. Але стаяла ціша. Міма гаварыў хрыпата, амаль не было чуваць: «Грамадзяне, сябры. Пасля мноства выпрабаванняў... мы тут. Вечная слава палеглым за свабоду». Усё. Ён завярнуўся і пайшоў. Натоўп галёкаў, партызаны трэслі зброяй, палілі ў паветра. Мы, хлопцы, кінуліся падбіраць гільзы – каштоўныя калекцыйныя экспанаты. У той дзень я ўсвядоміў, што свабода слова азначае і свабоду ад рыторыкі.

[...] У траўні нам сказалі, што вайна скончылася. Мір падаўся мне нечым вельмі дзіўным. Мяне вучылі, што няспынная вайна – нармальны лад жыцця для маладога італьянца. У наступныя месяцы выявілася таксама, што Супраціў – праява не толькі наша вясковая, але і агульнаеўрапейская.

У Італіі сёй-той сёння задаецца пытаннем, ці адыграў Супраціў рэальную ролю ў вайне. Для майго пакалення гэтае пытанне не мае сэнсу. Мы адразу адчулі маральную і псіхалагічную ролю Супраціву. Вось што надавала нам годнасці: ведаць, што мы, жыхары Еўропы, не чакалі вызвалення склаўшы рукі. [...]

У Італіі чуваць выказванні, што Супраціў у Еўропе – выдумка камуністаў. Няма чаго спрачацца, камуністы сапраўды выкарысталі Супраціў як сваю ўласнасць, балазе адыгралі ў ім цэнтральную ролю. Але я памятаю партызанаў у шыйных хустках самых розных колераў.

Я праводзіў цэлыя ночы, прыпаўшы да радыёпрыймача – задраеныя аканіцы, камендантская гадзіна, зацямненне, адзінае святло – арэол вакол радыё – і слухаў паведамленні «Радыё Лондан» для партызанаў. Весткі былі туманныя і паэтычныя («Сонца ўзыходзіць зноў», «Ружы ў квецені»). Пераважна гэта была «інфармацыя для Франкі». Аднекуль я дазнаўся, што Франкі – камандзір найбуйнейшага падполля ў Паўночнай Італіі і чалавек легендарнае мужнасці. Франкі быў маім героем. Гэты Франкі (сапраўднае імя – Эдгарда Соньё) быў манархістам настолькі антыкамуністычнай арыентацыі, што па вайне далучыўся да правазкстрэмісцкае групоўкі і трапіў пад суд па падозранні ў падрыхтоўцы рэакцыйнага антыдзяржаўнага перавароту. Што гэта мяняе? Ён застаецца арыенцірам маіх дзіцячых гадоў. Вызваленне – адно для людзей самых розных колераў.

Цяпер у нас прынята казаць, што вайна за вызваленне Італіі прывяла да трагічнага расколу нацыі і што неабходна нацыянальнае прымірэнне. Успамін пра жахлівы час трэба выцесніць.

Але выцясненне – крыніца неўрозаў. Калі прымірыцца – значыць праявіць разуменне, павагу да тых, хто з чыстым сэрцам вёў сваю вайну, то даравацъ – не значыць забыць. Дапускаю, што Эйхман быў шчыра адданы сваёй місіі. Але мы ж не кажам Эйхману: «Вяртайся і працягвай у тым жа духу». Мы павінны памятаць, што было, і ўрачыста заявіць: паўтарыць гэта яны не павінны.

Але хто гэтыя «яны»?

Калі разумець пад «імі» таталітарныя ўрады, што распараджаліся Еўропай перад Другой сусветнай вайной, дык можна спаць спакойна: у новых гістарычных дэкарацыях яны ў сваім ранейшым выглядзе не адродзяцца. У склад італьянскага фашызму (Мусаліні) уваходзілі: культ харызматычнага правадыра, карпаратыўнасць, утапічная ідэя пра лёсаноснасць Рыму, імперыялістычная воля да заваёвы новых земляў, надсадны нацыяналізм, выстройванне краіны ў калону па двое, адзяванне ўсіх у чорныя кашулі, адмаўленне парламенцкай дэмакратыі, антысемітызм. У такім разе цяперашні Нацыянальны альянс, які нарадзіўся з рэштак Італьянскага сацыяльнага руху, – гэта партыя хоць і безумоўна правая, але яна не мае сувязі з нашым ранейшым фашызмам.

І хоць я вельмі занепакоены фашыстоўскімі рухамі, што паўстаюць па ўсёй Еўропе і, у прыватнасці, у Расіі, я – з тае ж прычыны – не думаю, што менавіта нямецкі фашызм у сваёй першапачатковай форме можа зноўку выступіць як ідэалогія, што апаноўвае цэлыя народы.

Ці існуе ў цяперашні час тая здань, якая блукае па Еўропе, не кажучы пра іншыя часткі свету?

Іянэска выслаўіўся так: «Важныя толькі словы, усё астатняе – балбатня». Лінгвістычныя звычкі часта аказваюцца галоўнымі сімптомамі невымоўных пачуццяў.

Таму дазвольце задаць пытанне: чаму не толькі італьянскі Супраціў, але і ўся Другая сусветная вайна па ўсім свеце фармулюецца як бітва супроць фашызму? Фашызм, агулам беручы, павінен асацыявацца з Італіяй. [...]

Рэч у тым, што «Майн Кампф» – маніфэст цэльнае палітычнае праграмы. Нямецкі фашызм (нацызм) уключаў у сябе расавую і арыйскую тэорыі, выразнае ўяўленне пра звыраднелае мастацтва, філасофію дзяржаўнасці і культ звышчалавека. Ён меў выразную антыхрысціянскую і неапаганскую афарбоўку. Гэтаксама сталінскі дыямат быў адкрыта матэрыялістычны і атэістычны. Рэжымы, што падпарадкоўваюць усе асабістыя праявы дзяржаве і дзяржаўнай ідэалогіі, мы завем таталітарнымі. Такі характар мелі і нямецкі фашызм, і сталінізм.

Італьянскі ж фашызм, безумоўна, уяўляў сабою дыктатарскі рэжым, але цалкам таталітарнага характару ён не меў. Прычына гэтага – не нейкая там ягоная адмысловая мяккасць, а недастатковая філасофская база. Насуперак агульнапрынятаму ўяўленню, у італьянскага фашызму не было ўласнае філасофіі. Артыкул пра фашызм, падпісаны «Мусаліні» ў італьянскай «Энцыклапедыі Трэкані», быў калі не напісаны, то натхнёны філосафам Джавані Джэнтыле, але ў ім адбівалася познегегельянскае ўяўленне пра «этычную і абсалютную дзяржаву». Аднак за панавання Мусаліні такая дзяржава рэалізавана не была. Мусаліні не меў ніякае філасофіі: у яго была толькі рыторыка.

Італьянскі фашызм, бясспрэчна, быў першай правай дыктатурай, што заўладала цэлай еўрапейскай краінай, і таму наступныя аналагічныя рухі бачылі ў мусалініеўскім рэжыме свой супольны архетып. Італьянскі фашызм першым з усіх распрацаваў ваенную літургію, фальклор, нават моду на адзенне – нашмат больш уплывовую, чым любыя Бенетоны, Армані і Вэрсачэ. Толькі следам за італьянскім фашызмам – у трыццатыя гады – фашыстоўскія рухі з'явіліся ў Англіі (Мослі), Літве, Эстоніі, Латвіі, Польшчы, Венгрыі, Румыніі, Балгарыі, Грэцыі, Югаславіі, Іспаніі, Партугаліі, Нарвегіі і нават у Паўднёвай Амерыцы – і, вядома, у Германіі. І менавіта італьянскі фашызм стварыў у шмат каго з ліберальных еўрапейскіх лідэраў перакананне, нібыта гэтая ўлада праводзіць цікавыя сацыяльныя рэформы і здатная стварыць памяркоўна-рэвалюцыйную альтэрнатыву камуністычнай пагрозе.

У Італіі фашыстоўская партыя нарадзілася, выхваляючы свой новы рэвалюцыйны лад, але фінансавалася яна самымі кансерватыўнымі землеўладальнікамі, якія спадзяваліся на контррэвалюцыю. Італьянскі фашызм у сваім зародку быў рэспубліканскім, але потым дваццаць гадоў запар пракламаваў вернасць каралеўскай фаміліі, даючы магчымасць дучэ крочыць праз жыццё пад ручку з каралём, якому прапаноўваўся нават тытул імператара. Калі ж у 1943 годзе кароль звольніў Мусаліні з пасады, партыя праз два месяцы адрадзілася з дапамогаю немцаў пад сцягам «сацыяльнае» рэспублікі, пад ужо знаёмую рэвалюцыйную музыку, але ўзбагачаную цяпер ледзь не якабінскімі абертонамі.

Існавала толькі адна архітэктура нямецкага фашызму і толькі адно нямецка-фашыстоўскае мастацтва. Калі б архітэктарам нямецкага фашызму стаў Альберт Шпеер, не засталося б месца Місу ван дэр Роэ. Гэтаксама ж і пры Сталіну: калі б меў рацыю Ламарк, не засталося б месца Дарвіну. Наадварот, у Італіі архітэктары, безумоўна, мыслілі сябе як фашысты, аднак поруч з псеўдакласікамі праектавалі і наватарскія будынкі, натхнёныя мадэрнрацыяналізмам Гропіюса.

Італьянскі фашызм не ведаў свайго Жданава. У Італіі існавалі дзве важныя мастацкія прэміі. Па-першае, прэмія «Крэмона» - пад эгідай фашыста Фарыначы, невука і фанатыка, які стаяў за прапагандысцкае мастацтва (памятаю станковы жывапіс «Ля радыёпрыймача. Слухаючы выступ Дучэ» і «Станы свядомасці, створаныя фашызмам»). Па-другое, прэмія «Бэргама», якую фундаваў адукаваны і зболышага талерантны фашыст Джузэпэ Ботаі. Ён быў адначасна за мастацтва дзеля мастацтва і за наватарскі авангардызм, той самы, што ў Нямеччыне пераследаваўся як праява звыраднеласці і тайнага камунізму, бо адрозніваўся ад нібелунгавага кічу, а дазваляўся толькі ён і больш нічога.

Шмат хто з партызанаў, прадстаўнікоў левай інтэлігенцыі выспелі ў ячэйках ГУФ (фашыстоўскай арганізацыі універсітэцкіх студэнтаў), якая задумвалася як калыска новае фашыстоўскае культуры. Але гэтыя ячэйкі склаліся ў нейкі інтэлектуальны кацёл, дзе кіпелі ідэі і ніколі не было сапраўднага ідэалагічнага кантролю; не таму, што партыйцы адрозніваліся адмысловай талерантнасцю, а таму, што ім, як правіла, не хапала інтэлектуальнага ўзроўню, каб кантраляваць студэнтаў.

Цягам усяго таго дваццацігоддзя паэзія «герметыкаў» станавіла процівагу пампезнаму стылю істэблішменту. Герметыкам было дазволена выказваць літаратурны пратэст, не пакідаючы вежы з слановае косці. Настрой герметыкаў станавіў поўную процілегласць фашыстоўскаму культу аптымізму і гераізму. Фашыстоўскі істэблішмент цярпеў гэтую відавочную, хоць і сацыяльна няўлоўную, супярэчнасць, бо проста не аддаваў увагі іхнім туманным словам.

Гэта не азначае, што італьянскі фашызм вызначаўся талерантнасцю. Грамшы праседзеў у турме да самага скону, Матэоці знішчылі, братоў Расэлі знішчылі, свабоду друку скасавалі, прафсаюзы разагналі, палітычных дысідэнтаў выслалі на дальнія астравы, заканадаўчая ўлада ператварылася ў чыстую фікцыю, а выканаўчая (якая кантралявала і судаводства, і масавыя камунікацыі) самавольна выдавала законы, сярод якіх, у прыватнасці, быў і закон пра чысціню расы – фармальная падтрымка Італіяй генацыду яўрэяў.

Супярэчлівы малюнак, які я тут падаю,

/ Заканчэнне на стар. 6/



Беніта Мусаліні – дучэ, правадыр італьянскіх чорнакашульнікаў



# З Коласавага племені

*Эсэ*

*(Працяг. Пачатак на стар. 3.)*

Праца, капейчына, сябры (сярод якіх шмат ці сабутэльнікаў, ці шпікаў), сувязі і ўрэшце сям'я. Жонка і дзеці – святое, але, мабыць, Лёсік тады адчуваў, што ў свае маладыя гады нетрывалае становішча не варта камусьці – і добраму, любімаму – «завязваць» лёс, дык жэніцца пазней. А пакуль што ягоная энергія пойдзе таксама на духоўнае, высакароднае; наш герой павёў гутарку ў тым мястэчку, але паступова ператвараючы яе, сваю гутарку, у палітычную дзейнасць, – збірае сялян і чытае ім тагачасныя газеты, задае пытанні, суправаджае адказы сваімі каментарамі, агітуе за Устаноўчы сход (успомнім, у Купалы, у «Раскіданым гняздзе» і іншых творах будзе ідэя Вялікага сходу, сімвал якой яшчэ неразгаданы многімі і сёння), агітуе за тое, каб сяляне дамагаліся свайго: надзяляць зямлёй толькі тых, хто будзе сам на ёй працаваць і гаспадарыць (хіба не ажылы лозунг і сёння?). Улада пільная: агітатара хапаюць за каршэнь і – у вязніцу, дзе можна суцішыць не толькі злачынную, крымінальную, але і дабрачынную энергію, змусіць паразважыць і «одуматься, покаяться». Вольналюбівая Лёсікава душа падбівае яго на ўцёкі ад такой перспектывы, і ён – у Мікалаеўшчыне. Значыць, дома. Але мінуўся ўжо час, калі можна грэцца пад сонейкам на нёманскім беразе, даваць нырца з разгону ў ваду альбо лавіць там рыбу, цяпер (амаль у 23 гады) ужо няма бестурботнай радасці ад жыцця, весялосці, цяпер – развага, далейшае імкненне працягваць работу для тых, каго за стагоддзі змусілі ўлады жыць толькі дзеля кавалка хлеба, клопатамі аднаго дня. Але і ў роднай Мікалаеўшчыне не выйдзеш з двара і не загукаеш: «Карусь, гайда на сход!» «Які сход, якая гаварыльня, – адкажа той, – час касіць!» Карусь мае рацыю: трэба жыць і сродкамі працы, і яго, селяніна, не лёгка зрушыць ва ўсім свеце нават за яго ж турботы, бо ён хоча быць чым далей усялякай палітыкі. А палітыка ёсць, і яна, бывае, уб'ецца да яго нечакана і такой навалаю, такім цяжарам, што пераварочвае ўжо ўсё. Лёсік землякоў не вельмі трывожыць, касіце-працуйце, дае нейкім чынам кліч настаўніцтву: калегі, з кім і за што вы? Таксама толькі за самавыжыванне? Канечне ж, тады адбыліся не толькі сустрэчы з пляменнікам, але і важныя размовы з ім – не пры бацьках, як раней, пры «доглядзе пчол» або кароткіх гаспадарскіх стасунках, а сам-насам і пра ўсеагульнае, народнае. Можа, тады і Колас рашыў «запалітыкаваць» таксама, узяцца паклікаць сюды, у Мікалаеўшчыну, знаёмых настаўнікаў на тайны з'езд, каб ім, народным вылучэнцам, перамовіцца і вырашыць, што і як рабіць і тут пасля 1905-га, бо ўсюды штосьці ўсе робяць. Пазней, у савецкія часы, Колас пісаў пра тое, але, бясспрэчна, не пра ўсё, бо і яму, разам з Купалам узнесенаму, нельга было ўспамінаць добрым словам былых паплечнікаў, нават роднага дзядзьку і вялікую ролю таго ў ліпеньскай акцыі 1906-га ў Мікалаеўшчыне (крытыкі дапамогуць Коласу падаць той факт як яркі доказ ягонай барацьбы супраць самадзяржаўя, рэвалюцыйнай дзейнасці). Яны, тыя акцыі, і факт былі вырашальныя: да 1906-га Колас напісаў нямала вершаў, але ў асноўным не на роднай мове, а неўзабаве пасля сустрэчы з дзядзькам, пасля настаўніцкага з'езда змясціў у першай афіцыйнай беларускамоўнай газеце «Наша доля» верш пад сімвалічнай назваю «Наш родны край», напісаны па-беларуску, і цяпер для яго пачаўся зусім іншы шлях.

Настаўніцкі з'езд у Мікалаеўшчыне выкрыла паліцыя, завадатар, Лёсік, зноў мусіць ратавацца ўцёкамі, пакідаючы родную вёску назаўсёды. Розныя мясціны прытулку, але зноў і зноў самае любімае – кнігі, веды, мары, задумы; на Чарнігаўшчыне паратунку ўжо няма, паліцыя тут як тут: «наш» галубок! У нашых спісах, на своеасаблівым уліку! Як той, хто вельмі небяспечны для матухны-імперыі! Больш за злодзея і бандыта!

У 1908-м (як і над пляменнікам у Мінску) суд, які быў ужо не проста жорсткі, а бязлітасны: бестэрміновая высылка ў Сібір без ніякага права на маёмасць і на спадчыну, страта ўсіх грамадзянскіх правоў і магчымасці займаць нейкія пасады, у тым ліку і па прафесіі. Не першы раз беларускіх пісьменнікаў, вучоных, грамадскіх дзеячаў асуджалі ці толькі на «чёрный труд», на нястачу і пакуты, ці ўвогуле на ціхую пагібель. У Іркуцкую губерню яго павезлі ў «браслетах», а там – раскарчоўвае дзялянкі, нарыхтоўвае дровы, косіць за мізэрную плату, церпіць знявагі і прыніжэнне. Але ёсць і радасць – сустрэча са ссыльнымі землякамі (сярод іх Алесь Гарун), ёсць хоць з кім пагаварыць на роднай мове, пагрэцца сваім словам, падтрымаць адзін аднаго. Бачачы, што фізічная праца знясільвае, надрывае здароўе, новыя сябры аберагаюць яго, даручаюць яму іхнія сціплыя гаспадарска-кухарскія справы, і ён, як пасля жартаваў, меў за яе «бульбяны медаль». Усе ніткі-повязі з радзімай не былі абарваныя, у тым ліку і з «Нашай нівай», дык з 1912-га пачаў там друкавацца, а ў 1914-м выпусціў кніжачку «Не ўсе ж разам, ягамосці!..» у віленскай друкарні зычлівага да беларускага друку Марціна Кухты.

Прыкладна ў гэты час, у 1908 – 1911 гадах спазнаў мінскі астрог пляменнік. Канечне ж, Колас таксама перажываў, што адарваны ад любімай справы, мае непрыемнае кляймо, але як і многіх іншых, турма яго абудзіла, абвастрыла ў ім тое, што, можа, зусім не так уяўлялася на волі. Напісаныя менавіта там радкі «Мой родны кут, як ты мне мілы» сталі не проста радкамі смутку альбо прызнання ў любові да родных мясцін, а ўступам да вялікага асэнсавання жыцця сваёй сям'і, а на яе прыкладзе і ўсяго беларускага сялянства на пераломе стагоддзяў, каб урэшце выліцца ў своеасаблівую паэтычную, філасофскую энцыклапедыю, вызначыць далейшы кірунак беларускай літаратуры, у тым ліку і прозы. І празаікі вучыліся на «Новай зямлі», як спасцігаць, адлюстроўваць прыроду, людскія характары, учынкі, чалавечае, народнае жыццё.

Лютаўская рэвалюцыя ў Петраградзе адчыняе дзверы «турмы народаў», дазваляе катаржанам і ссыльным «право свободного передвижения». Лёсік вяртаецца на радзіму ў цяпер вельмі палітычна актыўны Мінск, адразу ўступае ў БСГ (Беларускую сацыялістычную грамаду), далучаецца да БНК (Беларускага нацыянальнага камітэта) і апошні даручае яму рэдагаваць свой друкаваны орган, газету «Вольная Беларусь». Даволі ўдала наладзілася справа і з побытам ды сям'ёю: як і раней Максіма Багдановіча, яго, бяздомнага ў горадзе, да сябе на кватэру запрасіў пісьменнік Змітрок Бядуля, а дачка іншага пісьменніка, Ядвігіна Ш., Ванда, стала ягонай жонкай. Зразумела, у гэтым пасля столькіх гадоў прыгод і нягод нарэшце бачылася простая, але кожнаму патрэбная чалавечая радасць. Ды Лёсік не толькі цешыцца воляй, шчасцем. Ён – увесь у працы. Праўда, сілы свае прыкладае не столькі да паэзіі і прозы, да чаго меў дар, а да іншага, на яго думку больш надзённага – палітыкі, публіцыстыкі і крытыкі, дзе тады (бурны 1917-ы) яркае, жывое слова ды яшчэ яго, пацярпелага ад царызму, лічы, рэвалюцыянера з сацыял-дэмакратычнай афарбоўкай, – магутная зброя, адзін з упэўненых спосабаў дасягнення мэты. І ва ўсім ён быў адкрыты, сумяшчальны: у жыццёсцвярджальнай «Вольнай Беларусі», «Звоне», «Беларусі», у БСГ, аднаўленні Беларускага настаўніцкага саюза, у многіх (найчасцей бясплатных) лекцыях па мове, гісторыі і культуры, ва ўкладанні хрэстаматый для школ, у навуковых артыкулах («1517–1917. Да юбілею 400-лецця беларускага друку», «Беларускі тэатр», «Граматыка і родная мова», «Наш правапіс»), у «гарачай» публіцыстыцы («Нацыянальны ўціск», «Беларуская Рада», «Што рабіць?», «Шлях паратунку», «Аўтаномія Беларусі» і г. д.), у рэцэнзіях, перакладах, у марах стварыць беларускі эпас тыпу «Калевалы».

Тут часамі нялёгка і зразумець іх, апантаных: колькі сілы волі, энергіі, стойкасці, высакароднасці, напружанай працы! Такой самаадданасцю і самаахвярнасцю валодалі, валодаюць цяпер нямногія, бо не кожны можа праявіць сваю вытрымку, рашучасць, паслядоўнасць і настойлівасць. Усё гэтае, як і іншым, прыйшлося здаваць экзаменам у 1918-м, пры ўтварэнні БНР.

У маіх раманах «Пабуджаныя» і «Свой дом» – празаічная версія, як учыняўся той Акт. Адпаведна, уяўляю: БНР утваралі не толькі нацыяналісты, так ці гэтак да таго Акта дачыніліся і прадстаўнікі розных усерасійскіх і яўрэйскіх партый. Браты Луцкевічы, Лёсік і іншыя былі толькі найбольш адчайныя, адважныя, валявыя ў гэтай справе, чым азадачылі, напалохалі нават некаторых сваіх прыхільнікаў. Больш – Лёсік быў сярод той «жменькі», хто паспадзяваўся на Берлін і шукаў падтрымкі ў акупацыйных улад, у кайзера, чым тады і пазней выклікаў вялікі гнеў на сябе.

Ва ўсім свеце асуджаюць тых, хто супрацоўнічае з акупантамі. Але менавіта праз стасункі з кайзерам ішлі да сваёй самастойнасці ў Літве, разглядалі гэтыя шляхі і ва Украіне, бо не толькі царызм, але і новая ўлада, бальшавікі, зусім не спяшалася даваць волю народам. А ўрэшце, самі бальшавікі? Не хаўруснічалі яны з кайзераўскім генштабам, не атрымлівалі ад яго грошы? Ды ўжо за тое, што ў час вайны вялі агітацыю за паразу, за грамадзянскую вайну ў сваёй краіне, па законах ваеннага часу іх павінны былі расстраляць, так сурова каралі заўсёды і паўсюль! А іхнія таемныя змовы з немцамі на перамовах у Брэсце, куды беларускую дэлегацыю не дапусцілі, хоць вайна ішла і на беларускай зямлі, паставілі беларускі народ на мяжу выжывання!

«Прымаючы на сябе ў гэты няпэўны і трагічны час для нашай Бацькаўшчыны абавязкі старшыні такой дзяржаўнай установы, як Рада Б. Н. (Беларускай Народнай) рэспублікі, – патлумачыць Лёсік у маі 1918 года ў газеце «Вольная Беларусь», – я мушу зазначыць, што нашаю мэтай і сьвятым нашым заданьнем павінен быць дабрабыт нашага народу, – той дабрабыт, каторы само сабою разумеючы эканамічны росквіт, ні можа не зьдзейсьніцца без культурна-нацыянальнага развіцьця і яго нізалежнасьці, а культурна-нацыянальная нізалежнасьць і яе поўнае развіцьцё, у сваю чаргу, ні можа зьдзейсьніцца без дзяржаўнай нізалежнасьці Беларусі. Такім парадкам, культурна-нацыянальная і дзяржаўная нізалежнасьць Беларусі – вот наша мэта, наша сьвятое заданьне і той галоўны грунт нашай чыннасьці, с каторага мы ніколі ні саступім».

Нельга не верыць яму, хто змалку супраціўляўся несправядлівасці, дбаў не столькі пра сябе, колькі пра народ!

БНР, сапраўды, як цешыліся пазнейшыя заідэялагізаваныя гісторыкі, пабыла мала, не магла супрацьстаяць штыкам Чырвонай Арміі, але яна як факт адбылася ў свядомасці: дараслі, дайшлі да яе!

З наступленнем савецкага часу Лёсік адыходзіць ад палітыкі, сканцэнтроўвае свае сілы як навуковец і педагог (падручнікі, лекцыі па беларускай мове ў розных установах, у тым ліку і ў БДУ), але ён, як і ў царскія часы, зноў тайна на заметцы. І ў верасні 1921-га яго знаёмяць і з новай, рэвалюцыйнай, савецкай, турмою, дзе часта ўсё без лішніх слоў вырашаў «товарищ маузер». У. Ігнатоўскі хадайнічае і дапамагае вызваліцца, працягнуць працу, але – «жыву як мыш пад мятлою». У 1920-м яшчэ можна будзе і ў такой сітуацыі працаваць у Інбелкульце, рыхтуючы яго да статусу акадэміі, выкладаць, рыхтаваць слоўнікі і правапіс беларускай мовы, нават стаць акадэмікам і дырэктарам Інстытута мовы, старшынёй Тэрміналагічнай камісіі. У гэты перыяд па яго падручніках вучыліся ўсе ў БССР («Школьная граматыка», а для тэхнікумаў – «Фанетыка», «Марфалогія» і «Сінтаксіс»).

20 ліпеня 1930-га яго арыштоўваюць па гнюснай справе «Саюза вызвалення Беларусі» (навісла пагроза і над знакамітым пляменнікам, які мусіў пісаць «Пакаянны ліст», пісаць вершы і артыкулы не па поклічы сэрца, а па заказе і ўказцы). Як і з іншымі, абышліся яшчэ без націскання на курок, прыбралі з радзімы, ад любай беларускай справы, выслалі на Волгу, дазволілі (акадэміку!) выкладаць у педтэхнікуме.



*Бадайбо, 1915 г.*

У 1934-м амніставалі, але ў Беларусь вярнуцца не дазволілі, адпаведна Лёсік мусіць працаваць на Браншчыне і Саратаўшчыне. Але мовавед ёсць мовавед, і ў такіх гнятлівых умовах дбае пра мовазнаўства, стварае падручнік «Синтаксис русского языка», засведчыўшы, што ўжо добра ведае гэтую прыгожую, але складаную славянскую мову. Зразумела, спасціг найбольш у ссылках за царом і за барацьбітамі з ім, каму ён быў, ёсць аднолькава непажаданы. За любоў, якую перакваліфікавалі ў злачынства!

25 чэрвеня 1938-га яшчэ адзін арышт, ужо апошні ў яго нядоўгім, але нялёгкім жыцці. Амаль два гады допытаў, прыніжэнняў і пакутаў, фізічнага і маральнага гвалту, а ў 1940-м – прысуд: «антисоветская агитация против руководителей ВКП(б) и Советского правительства». А гэта тады – не проста абмен думкамі згодна з Канстытуцыяй, гэта...

«13 марта 1940 года, – пазней напішуць у адпаведных афіцыйных дакументах, – поступил на излечение в больницу при тюрьме». Ды «излечили» на той свет. 1 красавіка 1940 года. «Захоронен Лесик И. Ю. на Воскресенском кладбище г. Саратова. Могила в настоящее время не сохранилась».

Фармальна Язэпа Лёсіка рэабілітаваў Саратаўскі абласны суд яшчэ ў 1958 годзе. Але па-ранейшаму яго імя, ягоныя надрукаваныя і рукапісныя творы забараняліся: і пасляcталіністам, якія «вярнулі ленінскія нормы», ён таксама быў непажаданы. На вялікі жаль, часамі і з-за брыдкіх намаганняў многіх нашых моваведаў, якія не хацелі, баяліся Лёсікавага вяртання. Ён быў страшны ім і «пад венікам» (хоць можна было даволі лёгка з ягоных прац многае прызнаць, з тым-сім паспрачацца). Ім было лепш, каб ён і далей быў у невядомай магіле са сваімі кнігамі і рукапісамі, адлучаны і зганьбаваны.

11 ліпеня 1988 года калегія Вярхоўнага Суда БССР спыніла справу Я. Лёсіка 1931 года, а Савет Міністраў БССР ад 1 мая 1990 года аднавіў яго ў званні акадэміка, чым было пацверджана яго прыстойнае жыццё, навуковыя дасягненні ў галіне мовазнаўства. У 1994 годзе ў «Мастацкай літаратуры» пабачыла свет выбранае Язэпа Лёсіка, куды былі ўключаны некаторыя яго апавяданні, казкі, артыкулы – як слушна заўважае ўкладальнік Алесь Жынкін, толькі невялічкая частка таго, што было напісана працавітым, апантаным аўтарам...

***...Калі заканчваю гэтае эсэ, не магу пазбавіцца ад яшчэ адной нашай віны: 4 лістапада разам з іншымі быў на радзіме Якуба Коласа, каб яшчэ і яшчэ раз пакланіцца яму. У Смольні зайшлі ў філіял Коласавага музея – пра яго дзядзьку, Язэпа Лёсіка, там нідзе ніякага ўпамінання...***

*Генрых* ***ДАЛІДОВІЧ***

# Вечны фашызм

/Заканчэнне, пачатак на стар. 4/

сведчыць не пра талерантнасць, а пра вялікае нядбальства, як палітычнае, так і ідэалагічнае. Прычым гэта было «строгае нядбальства», у бязладдзі была свая сістэма. Хай сабе фашызм не меў філасофскага стрыжня, але з эмацыйнага пункту гледжання ён быў моцна звязаны з пэўнымі архетыпамі.

Так мы падышлі да другой часткі гутаркі. Нямецкі нацызм быў унікальны. Мы не можам назваць нацызмам гіперкаталіцкі фалангізм Франка, бо нацызм адзначаецца глыбінным паганствам, політэізмам і антыхрысціянствам. А вось з тэрмінам «фашызм», наадварот, можна гуляць па-рознаму.

Тэрмін «фашызм» ужываецца паўсюдна, бо нават калі пазбавіць італьянскі фашыстоўскі рэжым аднаго ці некалькіх аспектаў, ён усё роўна будзе апазнавацца як фашыстоўскі. Выдаліўшы з італьянскага фашызму імперыялізм, атрымліваем Франка або Салазара. Выдаляем каланіялізм – выходзіць балканскі фашызм. Дадаем шаленства на кельцкай міфалогіі і кульце Грааля (абсалютна чужое італьянскаму фашызму), і перад намі адзін з найбольш шанаваных фашыстоўскіх гуру – Юліюс Эвола.

Каб пераадолець гэты разброд, на мой розум, трэба вылучыць спіс тыповых характарыстык Вечнага Фашызму (ур-фашызму); агулам кажучы, дастаткова наяўнасці хоць бы аднае з іх, каб вакол яе пачала кандэнсавацца фашыстоўская туманнасць.

**1. Першая характарыстыка ур-фашызму – культ традыцыі.**

Традыцыяналізм старэйшы за фашызм. Ён выступае дамінантай контррэвалюцыйнае каталіцкае думкі пасля Французскае рэвалюцыі, але зарадзіўся ён у позні эліністычны перыяд як рэакцыя на рацыяналізм класічнае Грэцыі.

У міжземнаморскім басейне народы розных рэлігіяў (усе яны з роўнай талерантнасцю дапускаліся ў рымскі Пантэон) шукалі нейкага адкрыцця, яўленага на золку гісторыі чалавецтва. Гэтае адкрыццё спакон веку тоілася пад покрывам забытых моваў. Яно было даверана егіпецкім іерогліфам, кельцкім рунам, сакральным сувоям малавядомых азіяцкіх рэлігіяў.

Гэтая новая культура немінуча аказвалася сінкрэтычнаю. Сінкрэтызм – гэта не проста, як зазначаюць слоўнікі, «спалучэнне розных формаў рэлігійнае веры і практыкі». Тут аснова спалучальнасці – перадусім пагарда да супярэчнасцяў. Зыходзячы з падобнае логікі, ва ўсіх першародных вестках ёсць каліва мудрасці, а калі яны супярэчаць адна адной ці ўвогуле не сумяшчаюцца міжсобку, гэта не мае значэння, бо ў алегарычным сэнсе яны ўсё роўна нагадваюць пра нейкую спрадвечную праўду.

Нямецка-фашыстоўскі гнозіс жывіўся традыцыяналісцкімі, сінкрэтысцкімі, акультнымі складнікамі. Найважнейшая тэарэтычная крыніца новых італьянскіх правых, Юліюс Эвола, змяшаў Грааль з «Пратаколамі Сіёнскіх мудрацоў», алхімію з Святою Рымскай імперыяй.

Парыйцеся ў кнігарні на стэлажах пад таблічкай «Н'ю-Эйдж». Вы ўбачыце ў кучы містычнае лухты нават святога Аўгустына, які, наколькі мне вядома, фашыстам не быў. Але калі валяць у адну кучу Аўгустына і Стоўнхэндж – гэта ўжо сімптом ур-фашызму.

**2. Традыцыяналізм немінуча вядзе да непрыняцця мадэрнізму.**

Як італьянскія фашысты, так і нямецкія нацысты пакланяліся тэхніцы, тым часам як традыцыяналісцкія мысляры звычайна яе ганілі, бачачы ў ёй адмаўленне традыцыйных духоўных каштоўнасцяў. Але хоць нацызм і ганарыўся сваімі індустрыяльнымі дасягненнямі, у глыбіні ягонае ідэалогіі панавала тэорыя «Крыві і глебы». Адмова сучаснага свету ішла пад маркаю адмаўлення капіталістычнага ладу жыцця, але перадусім – адмаўлення духу 1789 году (а таксама, натуральна, 1776-га), духу Асветніцтва. Век Рацыяналізму бачыцца як пачатак сучаснае распусты. У гэтым сэнсе ур-фашызм льга назваць ірацыяналізмам.

**3. Ірацыяналізм моцна павязаны з культам дзейнасці дзеля самой дзейнасці.**

Дзеянне прыгожае само па сабе. Таму яно можа здзяйсняцца па-за рэфлексіяй і без яе. Думаць – справа не мужная. На культуру пазіраюць з падозраннем, як на патэнцыйны носьбіт крытычнага стаўлення. Тут усё: і выказванне Гебельса «Калі я чую слова «культура», я хапаюся за пісталет», і выразы накшталт інтэлігентаў-размазні, яйкагаловых, радыкал-снабізму і універсітэтаў як расаднікаў камуністычнае заразы. Падозрывасць да інтэлектуальнага свету заўжды сведчыць пра прысутнасць ур-фашызму. Афіцыйныя фашыстоўскія мысляры нападалі на сучасную ім культуру і ліберальную інтэлігенцыю ў асноўным за адыход ад векавечных каштоўнасцяў.

**4. Ніякая форма сінкрэтызму не можа вынесці крытыкі.**

У сучаснай культуры навуковая супольнасць шануе нязгоду як аснову развіцця навукі. У вачах ур-фашызму нязгода гэта здрада.

**5. Нязгода – гэта яшчэ і знак разнастайнасці.**

Ур-фашызм расце і шукае кансэнсусаў, эксплуатуючы прыродную боязь іншароднага. Найпершыя лозунгі фашызоідных рухаў ад пачатку скіраваныя супраць іншародцаў. Ур-фашызм, такім чынам, паводле вызначэння замяшаны на расізме.

**6. Ур-фашызм родзіцца з індывідуальнае або сацыяльнае фрустрацыі.**

Таму ўсе гістарычныя фашызмы грунтаваліся на фрустраваных сярэдніх класах, якія пацярпелі ад нейкага эканамічнага або палітычнага крызісу і баяцца ціску нізоў. У наш час, калі ранейшыя «пралетары» ператвараюцца ў дробную буржуазію, а люмпен з палітычнага жыцця самаўстараняецца, фашызм знойдзе ў гэтай новай бальшыні выдатную аўдыторыю.

**7. Тым, каму нестае яснае сацыяльнае тоеснасці, ур-фашызм кажа, што адзіны іхні прывілей – факт нараджэння ў пэўнай краіне.**

Так куецца нацыяналізм. Да таго ж адзінае, што можа згуртаваць нацыю, – гэта ворагі. Таму ў аснове ур-фашыстоўскай псіхалогіі - апантанасць ідэяй змовы, па магчымасці міжнароднае. Чальцы руху павінны пачувацца ў аблозе. Найлепшы спосаб засяродзіць аўдыторыю на змове – скарыстаць спружыны ксенафобіі.

**8. Чальцы руху павінны пачувацца абражанымі тым, што ворагі выстаўляюць напаказ багацце, бравіруюць сілай.**

Калі я быў малы, мне ўводзілі ў вушы, што англічане – «нацыя, якая есць пяцьразоў на дзень». То бок яны ядуць часцей, чым бедныя, але сумленныя італьянцы. А габрэі – багатыя, да таго ж яны спрыяюць сваім праз тайную сетку ўзаемадапамогі. Гэта з аднаго боку; у той жа час чальцы руху пераканаsuccessfully, што патрапяць адужаць любога ворага. Такім парадкам рыторыка няспынна мяняе свой фокус, і вораг малюецца адначасна і як занадта дужы, і як занадта слабы. Таму фашыстоўскія ўрады асуджаныя заўсёды прайграваць войны: яны няздатныя аб'ектыўна ацэньваць баяздольнасць праціўніка.

**9. Для ур-фашызму няма барацьбы за жыццё, а жыццё існуе дзеля барацьбы.**

Калі так, пацыфізм раўназначны братанню з ворагам. Пацыфізм ганебны, бо жыццё ёсць вечнае змаганне. У той жа час прысутнічае і комплекс Страшнага суду. Паколькі вораг павінен быць – і будзе – знішчаны, значыць, адбудзецца апошні бой, у выніку якога дадзены рух здабудзе поўны кантроль над светам.

**10. Для ўсіх рэакцыйных ідэалогіяў тыповы элітарызм, у сілу ягонае глыбокае арыстакратычнасці.**

Цягам гісторыі ўсе арыстакратычныя і мілітарысцкія элітарызмы трымаліся на пагардзе да слабога. Ур-фашызм вызнае папулісцкі элітарызм. Шараговыя грамадзяне складаюць найлепшы народ у свеце. Чальцы партыі – найлепшыя сярод шараговых грамадзянаў. Кожны шараговы грамадзянін можа (ці абавязаны) зрабіцца чальцом партыі.

Аднак патрыцыяў не бывае без плебеяў. Правадыр, які ведае, што атрымаў уладу не праз дэлегаванне, а захапіў яе сілай, разумее таксама, што ягоная сіла грунтуецца на слабасці масаў: яны настолькі слабыя, што ім патрэбны Паганяты, і яны яго заслугоўваюць.

Таму ў такіх грамадствах, арганізаваных іерархічна (паводле мілітарысцкае мадэлі), кожны паасобны правадыр пагарджае, з аднаго боку, вышэйстаячымі, а з другога – падпарадкаванымі. Тым самым падмацоўваецца масавы элітарызм.

**11. Усіх і кожнага выхоўваюць, каб стаць героем.**

У міфах герой увасабляе сабой рэдкую, экстраардынарную істоту; аднак у ідэалогіі ур-фашызму гераізм - гэта норма. Культ гераізму непасрэдна звязаны з культам смерці. У нефашыстоўскіх грамадствах людзям кажуць, што смерць – гэта прыкра, але трэба сустракаць яе з годнасцю. Вернікам кажуць, што смерць – пакутны спосаб дасягнуць надпрыроднага шчасця. Герой жа ур-фашызму прагне смерці, расхваленай як найлепшая кампенсацыя за гераічнае жыццё. Герою ур-фашызму няўсцерп сканаць. У гэтай гераічнай нецярплівасці, заўважма ў дужках, яму нашмат часцей здараецца прыпраўляць аб смерць іншых.

**12. Паколькі як перманентная вайна, так і гераізм – даволі цяжкія гульні, ур-фашызм пераносіць сваё імкненне да ўлады на сферу полу.**

На гэтым асноўваецца культ мужнасці (то бок пагарда да жанчыны і бязлітасны пераслед любых нонканфармісцкіх сексуальных звычаяў: ад цнатлівасці да гомасексуалізму). Паколькі нават у сэкс гуляць нялёгка, герой ур-фашызму гуляецца са зброяй як з эрзацам фаласу.

**13. Ур-фашызм будуецца на выбарачным, альбо квалітатыўным, папулізме.**

Ва ўмовах дэмакратыі грамадзяне карыстаюцца правамі асобы; сукупнасць грамадзян ажыццяўляе свае палітычныя правы толькі пры наяўнасці колькаснай асновы - выконваюцца рашэнні бальшыні. У вачах ур-фашызму індывід як такі правоў не мае, а Народ паўстае як якасць, як маналітная еднасць, што выражае Супольную Волю. Паколькі ніякая колькасць людскіх істотаў у рэчаіснасці не можа мець супольную волю, Правадыр прэтэндуе на тое, каб прадстаўляць усіх. Страціўшы права дэлегаваць, шараговыя грамадзяне не дзейнічаюць, іх толькі заклікаюць – частка за цэлае – граць ролю Народу. Народ, такім чынам, бытуе як феномен выключна тэатральны.




Прыклад квалітатыўнага папулізму няма патрэбы шукаць на Нюрнбергскім стадыёне або на перапоўненай рымскай плошчы перад балконам Мусаліні. У блізкай будучыні нас чакае папулізм тэлевізійны або інтэрнэтны, бо там эмацыйную рэакцыю выбранае групы грамадзян лёгка падаць як «народную думку».

З прычыны свайго квалітатыўнага папулізму ур-фашызм непазбежна аказваецца праціўнікам «прагнілых парламенцкіх дэмакратыяў». Першае, што заявіў Мусаліні, прамаўляючы ў італьянскім парламенце, было: «Хацеў бы я ператварыць гэтую глухую, шэрую залю ў месца прыстанку для маіх кагортаў». Для «сваіх кагортаў» ён, вядома, хутка знайшоў нашмат лепшы прыстанак, але парламент тым не менш разагнаў.

Кожны раз, калі палітык ставіць пад пытанне легітымнасць парламенту, паколькі той ужо нібыта не адлюстроўвае «народную думку», выразна чуваць, як патыхае Вечным Фашызмам.

**14. Ур-фашызм гаворыць на навамоўі.**

Навамоўе прыдумаў Джордж Оруэл у рамане «1984» як афіцыйную мову ідэалогіі «Ангсоц», «Англійскі сацыялізм». Аднак элементы ур-фашызму сустракаюцца ў самых розных дыктатурах. Усе нацыстоўскія і фашыстоўскія школьныя падручнікі карысталіся збедненай лексікай і элементарным сінтаксісам, каб абмежаваць моўныя сродкі для складанай і крытычнай думкі. Мы павінны быць гатовыя распазнаваць і іншыя гатункі навамоўя, нават калі яны прымаюць нявінную на першы погляд форму папулярнага ток-шоў.

Пералічыўшы магчымыя архетыпы ур-фашызму, скончу такім успамінам. Раніцой 27 ліпеня 1943 году мне сказалі: праз радыё перадалі, што фашызм паў і Мусаліні арыштаваны. Маці паслала мяне купіць газету. Я пайшоў да шапіка і ўбачыў, што там поўна газет, і ўсе з рознымі назвамі. Больш таго, прагледзеўшы загалоўкі перадавіц, я зразумеў, што ў розных газетах напісаны розныя рэчы. Тады я купіў наўздагад адну з іх, разгарнуў і прачытаў на першай старонцы дэкларацыю, падпісаную пяцю або шасцю палітычнымі партыямі, сярод якіх былі Хрысціянская дэмакратычная, Камуністычная, Сацыялістычная, Партыя дзеяння, Ліберальная партыя. Дагэтуль мне здавалася, што партыя ў кожнай краіне бывае толькі адна, у прыватнасці ў Італіі гэтая адзіная партыя завецца Нацыянальнай Фашыстоўскай. А тут я пабачыў, што ў маёй краіне могуць аднача сна існаваць некалькі партыяў. І паколькі я быў хлопец кемлівы, я адразу зразумеў, што ніяк немагчыма, каб усе гэтыя партыі паўтвараліся за адну ноч. Значыць, падумаў я, яны існавалі раней у падполлі.

Дэкларацыя абвяшчала пра канец фашыстоўскае дыктатуры і аднаўленне свабодаў: свабоды слова, друку, палітычных аб'яднанняў. Гэтыя словы - «дыктатура», «свабода» – я прачытаў там упершыню ў жыцці. Дзякуючы гэтым словам я перарадзіўся ў свабоднага заходняга чалавека.

Мы павінны заўсёды пільнаваць, каб сэнс гэтых словаў не забыўся зноўку. Ур-фашызм дагэтуль ходзіць паблізу, часам пераапрануты ў цывільнае. Як жа лёгка было б, калі б хто-небудзь вылез на сусветную арэну і заявіў: «Хачу зноўку адкрыць Асвенцім, хачу, каб чорныя кашулі зноўку замаршыравалі ў парадах па італьянскіх плошчах». Але жыццё не такое простае. Ур-фашызм можа вяртацца пад самымі нявіннымі маскамі. Наш абавязак – выяўляць ягоную сутнасць і паказваць на новыя ягоныя формы штодзень і ў любым пункце зямнога шару.

**Новы Час, 2003, № 24.**